

# Заяц варыць піва...

**П'еса ў 2-х дзеях**
**на матывы вершаў і казак Уладзіміра Караткевіча**

АСОБЫ

Заяц.
Верабей.
Дзяцел.
Чапля.
Дрозд.
Арол.
Сава.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Пралог

Восеньскі лес. На паляне пад раскідзістай ялінай **З а я ц** нешта варыць у кацёлку, памешваючы час ад часу вялізнай драўлянай лыжкай. На яліне прымацавана афіша: «“Заяц варыць піва...” П'еса на матывы вершаў і казак Уладзіміра Караткевіча».

**З а я ц** *(падзьмухваючы на лыжку, каштуе варыва).* Сма-а-ачна. Зараз зварыцца. *(Да гледачоў.)* Але, я бачу, усе ўжо сабраліся. Час пачынаць. Я — той самы Заяц, пра якога Паэт напісаў верш. *(Бярэ кнігу і акуляры. Выцірае акуляры хусткай, чытае.)*

Туман плыве з нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
«Глядзіце, заяц варыць піва», —
Жартуюць людзі між сабой.
А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць з ячмяню...

*(Нечакана закрывае кнігу і хавае акуляры ў кішэню камізэлькі.)* Верш доўгі, пасля дачытаю... Толькі не падумайце, што я сапраўды вару піва. І што сённяшняя гісторыя пра мяне.

Праз паляну шпацыруе **В е р а б е й**.

**В е р а б е й**. Прывітанне, Заяц! Зноў варыш піва?

**З а я ц**. Зноў здзекуешся? Колькі разоў табе казаў: не піва я вару, а маркоўную гарбату!

**В е р а б е й**. Ха, так я табе і паверыў. А што там напісана? *(Паказвае на афішу.)*

Заяц вымае з кішэні акуляры і разглядае праз іх афішу.

**З а я ц** *(чытае ўслых).* «“Заяц варыць піва...” П'еса на матывы вершаў і казак Уладзіміра Караткевіча». Што ты, гэта — учарашняя афіша. Сёння ў нас іншая гісторыя. *(Капаецца ў складзеным пад дрэвам стосе афіш і шыльдаў. Дастае адну з іх,*

*чытае.)* Ага, знайшоў. *(Вывешвае патрэбную афішу на яліне.)* Во: «Птушыны суд».

Верабей. А што за суд? Каго судзіць будуць?

Заяц. Пачакай, неўзабаве даведаешся.

Верабей. Ну, я паскачу пакуль што, пагуляю, зярнятак пашукаю. *(Знікае.)*

Заяц *(да гледачоў).* Гісторыя гэтая пра тое, як птушкі захацелі жыць такой самай дзяржавай, як людзі. Захацелі мець свае птушыныя грошы, свае школы, свае птушыныя суды і выбралі сабе за бурмістра Арла. Пачаў Арол выдаваць розныя ўказы ды загады...

## З'ява першая

На паляне з'яўляецца Дзяцел з загадам Арла.

Дзяцел. Прывітанне, даўгавухі! Што гэта ты варыш — піва? *(Вывешвае загад на дрэве паверх афішы.)*

Заяц *(сумна).* Дзе там, маркоўную гарбату. А што гэта ты павесіў?

Дзяцел *(важна).* Новы загад Арла! *(Знікае.)*

На паляну выходзіць Чапля, спыняецца ля дрэва з загадам Арла.

Заяц *(чытае ўголас).* «Забараняецца птушкам спяваць абы-што і абы-калі. Загадваю спяваць толькі па аўторках і толькі птушыны гімн. Арол».

Чапля *(задаволена).* Слушна! Даўно пара навесці парадак!

Заяц *(здзіўлена).* Дык ты ж, Чапля, ніколі не спяваеш — толькі танчыш!

Чапля. Таму і радуюся. Галава трашчыць ад бязглуздых спеваў Дразда! *(Задаволеная, пакідае паляну.)*

З'яўляецца Дзяцел з чарговым загадам і вывешвае яго побач з першым.

Дзяцел. Здароў, касавокі!

**Заяц** *(змрочна)*. Бачыліся ўжо. Што – новы загад?

**Дзяцел**. Навейшы! *(Знікае.)*

На паляне з'яўляецца **Дрозд**.

**Заяц** *(чытае ўголас)*. «Забараняецца птушкам танчыць абы-калі і абы-што. Загадваю танчыць толькі па серадах і толькі арліную чачотку. Арол».

**Дрозд**. Вось гэта – справядліва! Нарэшце дачакаліся!

**Заяц** *(здзіўлена)*. Дык ты ж, Дрозд, ніколі не танчыш!

**Дрозд**. Калі мне нельга співаць, то няхай і Чапля не танчыць! *(Задаволены, пакідае паляну.)*

З'яўляецца збіты з панталыку **Дзяцел** і вывешвае побач з ранейшымі яшчэ адзін загад Арла.

**Заяц** *(не разумеючы перамены ў Дзятлавым настроі)*. Добры вечар, Дзяцел! Няўжо яшчэ адзін загад?

**Дзяцел** *(незадаволена)*. А, і не пытай!.. *(Знікае.)*

З'яўляецца спачатку **Чапля**, пасля **Дрозд**.

**Чапля**. Як жывеш, сусед? Ці бачыў ты загад Арла пра забарону спеваў?

**Дрозд**. Вітаю, суседка! А ці чытала ты загад Арла пра забарону танцаў?

Павітаўшыся з падкрэсленай прыязнасцю, птушкі цырымонна раскланьваюцца і адварочваюцца адна ад адной.

**Заяц**. Ого, тут ужо нешта сур'ёзней, чым спевы і танцы! *(Чытае ўголас апошні загад Арла.)* «Сёлета птушкам у вырай ляцець забараняецца. Будзем зімаваць на Бацькаўшчыне. Арол».

І адразу быццам холадам дыхнула на лясную паляну. Узняўся вецер, закружылася жоўтае лісце, закрапаў дождж.

**Дрозд** *(чухае патыліцу)*. Тут ужо не да спеваў. Трэба будаваць зімняе гняздо.

**Чапля**. Так, суседзе. Якія ўжо тут танцы... Хоць бы рыбы насушыць на зіму.

Птушкі пакідаюць паляну. Заяц захутваецца ў кажушок, падыходзіць да кацялка, мяшае лыжкай варыва, пасля грэе над кацялком лапкі. Завывае вецер, і здаецца, што недзе ў гушчары яму падвывае воўк.

### З'ява другая

З а я ц. Эх, добра ўсё ж пра мяне Паэт напісаў. Жаласліва, з разуменнем вялікай трагедыі заечага жыцця. *(Дачытвае верш.)*

Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.
І піва заяц варыць густа,
А на закуску — бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.
Пабачыш — не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

*(Выцірае слязу.)* Слёзы наварочваюцца, калі чытаеш: «...Перад халоднаю зімой...», «...Павінна ж быць і ў зайца радасць...» Толькі вось з півам ён нешта наблытаў. Я і не каштаваў ніколі таго піва. Вару заўсёды маркоўную гарбату...

Аднекуль зусім зблізку даносіцца заліхвацкая песня:

Цір-ла-ла,
Цір-ла-ла,
Не баюся я
Арла!

З а я ц *(прыслухоўваецца)*. Чуеце? Нехта спявае. *(Азіраецца на загады Арла.)* Але ж сёння, здаецца, не аўторак.

На паляну выскоквае В е р а б е й, танчыць на хаду нейкую неверагодную польку і гарлае на ўсё горла бязладную хуліганскую песню.

*(Прыгледзеўшыся да Вераб'я.)* І не серада. *(Круціць лапкай каля вуха і паказвае на Вераб'я.)* Та-а-ак: Верабей ад начальніцкіх загадаў з глузду з'ехаў.

Верабей *(спявае)*

Я – вясёлы верабей,
Я – арол-верабей,
Вельмі смелы верабей.
Верабей,
Верабей,
Вера –
Вера –
бей!

Заяц падбягае да Вераб'я і спрабуе яго затрымаць і супакоіць, спыніць ягоныя скокі і спевы.

Заяц. Супакойся, Верабейка! Спыніся! Змоўч, пакуль ніхто цябе не бачыў і не чуў!

Верабей. А ш-што т-такое? Няхай усе бачаць, усе чуюць! *(Вырываецца.)*

З-за дрэва неўпрыкмет высоўваецца Чапля і зацікаўлена назірае за абуральнымі паводзінамі Вераб'я.

Заяц. Ты што, загадаў Арла не чытаў? Забараняецца спяваць абы-што і абы-калі! Толькі па аўторках птушыны гімн. Забараняецца танчыць абы-калі і абы-што! Толькі па серадах арліную чачотку! *(Валтузіцца з Вераб'ём.)*

Верабей. Чы-чы-чытаў! Пляваць я хацеў на Арла, на ягоныя загады і на ягоную арліную ча-ча-чачотку.

Чапля *(шэптам)*. Цікава, цікава. Палячу-тка я ды паведамлю каму трэба! *(Знікае між дрэў.)*

Заяц безнадзейна махнуў лапкай, ён пакідае Вераб'я ў спакоі і накіроўваецца да кацялка. Верабей зноў натхнёна танчыць нешта падобнае да полькі. Нечакана Заяц спыняецца і вяртаецца да Вераб'я: яму запала ў галаву нейкая думка.

Заяц. Слухай, Верабей. А ты ж ніколі раней не спяваў. І не танчыў!

Верабей *(спыніўшы скокі, важна)*. Так, не спяваў і не танчыў. А зараз, калі забаранілі,– буду. Бо *(спявае)*

Я – вясёлы верабей,
Я – арол-верабей,
Вельмі смелы верабей.

Верабей,
Верабей,
Вера –
Вера –
бей!

Заяц падводзіць Вераб'я да яліны з загадамі Арла.

Заяц. А апошні загад ты чытаў? «Сёлета птушкам у вырай ляцець забараняецца. Будзем зімаваць на Бацькаўшчыне. Арол».

Верабей. Чытаў.

Заяц. Ну і што?

Верабей. Што – што?

Заяц *(шэптам)*. У вырай – паляціш?

Верабей *(адважна)*. А і палячу!

Заяц. Дык ніколі ж не лётаў! Ніколі ніводны верабей у вырай не лётаў!

Верабей. А я палячу! Хач-чу ў Венецыю. Альбо ў Парыж. *(Натхнёна.)* А ў мяне ў Парыжы ёсць адзін знаёмы – тамтэйшы Верабей. Палячу да яго пад дахі Мурмарта.

Заяц *(папраўляе)*. Манмартра.

Верабей. Ч-чаго?

Заяц. Няма ў Парыжы Мурмарта, а толькі Манмартр.

Верабей. Дык я і кажу: палячу пад дахі Манмартра. *(Зноў кідаецца ў скокі, спявае.)*

Я апошні грош аддам,
Каб пабачыць Нотр-Дам!

Заяц. А як жа загады Арла?

Верабей. А во як! *(Зрывае з дрэва ўсе тры загады, кідае сабе пад ногі і танчыць на іх.)*

На яліне застаецца толькі афіша: «Птушыны суд».

*(Спявае.)*

Цір-ла-ла,
Цір-ла-ла,
Не баюся я
Арла!

З а я ц. Во што я табе скажу, Верабейка: альбо ты дужа смелы, альбо... *(Змаўкае, да нечага прыслухоўваецца.)*

В е р а б е й *(танчыць)*. Альбо што?

З а я ц *(змрочна)*. ...Альбо дужа дурны.

## З'ява трэцяя

Вэрхал. На паляну вылятаюць птушкі: Д з я ц е л, Ч а п л я, Д р о з д. Апошнім з'яўляецца ягамосць А р о л уласнаю персонай – падкрэслена элегантны і выкшталцоны.

Ч а п л я. Вось ён, нягоднік! Вось ён, злодзей!

Д р о з д. Топча вашыя законы!

Д з я ц е л. Бунтаўнік!

У В е р а б'я ад страху мову адняло, крылцы трапечуцца, а ножкі па інерцыі – топ-топ: топчуць Арлiныя ўказы. Ніякавата стала і Зайцу: хоць не ягонае гэта начальства прываліла, а ўсё ж – начальства.

А р о л *(разглядвае Вераб'я)*. Та-а-ак... Значыць, спяваў?

Ч а п л я. Спяваў, спяваў, вашамосць!

А р о л. Значыць, танчыў?

Д р о з д. Танчыў, танчыў, вашамосць!

А р о л. Мае загады зневажаў?

Д з я ц е л. Зневажаў, зневажаў, вашамосць! І зараз, у вас на вачах, зневажае!

А р о л. А да ўсяго яшчэ – надумаўся ляцець у вырай. Ды не куды там, а ў Парыж. Ай-яй-яй, Верабей, Верабей... Чаго маўчыш, Арол-Верабей?

Ч а п л я *(хіхікае)*. Відаць, ад страху мову адняло ў героя.

А р о л *(па-вайсковаму ўладна)*. Верабей, слухай маю каманду! На месцы стой! Раз, два!

Верабей механічна выконвае загад Арла.

Значыць, так: раней бы я цябе проста з'еў. А цяпер – нельга. Ёсць птушыная дзяржава, птушыны закон. Цяпер мы

цябе судзіць будзем. *(Заўважае афішу «Птушыны суд». Паказвае Вераб'ю на яе.)* Вось будзе над табой птушыны суд.

Пачуўшы такое, Верабей ачуньвае і кідаецца ўцякаць.

Чапля *(істэрычна).* Трымайце, трымайце! Уцёк, злодзей!

Арол *(уладна).* Злавіць!

Дзяцел і Дрозд кідаюцца выконваць загад. Чапля застаецца пры начальніку: яна падбірае патаптаныя Вераб'ём указы. І, спарадкаваўшы, зноў вывешвае на дрэве.

Арол падыходзіць да Зайца.

*(Быццам толькі зараз заўважыў.)* А... Заяц... Як жывеш? Зноў варыш піва?

Заяц *(баязліва).* Вару, вашамосць. *(Спахапіўшыся.)* Не, не вару.

Арол *(здзіўлена).* Дык варыш ці не варыш?

Заяц. Вару – маркоўную гарбату. Ой, яна да гэтага часу, мусіць, ужо зварылася.

Арол. Ну, усё роўна, налі пакаштаваць.

Заяц налівае гарбаты Арлу, пасля – сабе. П'юць, падзьмухваючы на кубкі.

Вяртаюцца Дзяцел і Дрозд, цягнучы за сабой Вераб'я. У Вераб'я звязаны ножкі, крылцы і нават дзюба.

*(Пакаштаваўшы гарбаты, расчаравана.)* Сапраўды, маркоўная гарбата... Ага, злавілі-ткі злачынцу. А чаму гэта вы яму не толькі крылы ды ногі звязалі, але і дзюбу?

Дзяцел *(ціха).* Злачынца брудна лаецца, вашамосць.

Арол. Лаецца? А на чый адрас?

Дзяцел *(яшчэ цішэй).* На ваш.

Арол. Ну што ж, добра зрабілі, што звязалі. Ды і суду будзе лягчэй. Заяц – ты сведка. Раскажы нам, што бачыў.

Заяц. А што – Заяц? Па-першае, я нічога не бачыў, бо касавокі. А па-другое, я ўвогуле іншаземны грамадзянін і да птушынай дзяржавы не належу.

Арол. Цудоўна! Дрозд, ты будзеш абвінавачваць Вераб'я. Пачынай!

**Дрозд.** А што — Дрозд? І так усім вядома, які Верабей злодзей і ашуканец.

**Арол.** Выдатна! Чапля, будзеш бараніць Вераб'я. Давай!

**Чапля.** А што — Чапля? Не буду я яго бараніць, бунтаўнік ён і брыдкаслоў.

**Арол.** Бліскуча! А што скажа на сваё апраўданне злачынца?

Верабей спрабуе нешта сказаць, але ж дзюба ў яго завязаная. Ён толькі круціць галавой і нешта мыкае.

Зразумела. Падсуднаму няма чаго сказаць у сваё апраўданне, ён цалкам прызнае сваю віну.

**Заяц** *(ачмурэла).* А-а-а-а... *(Паказвае, што ў Вераб'я звязана дзюба.)*

**Арол** *(пагрозліва).* Ты хочаш нешта дадаць, іншаземны грамадзянін?

**Заяц** *(спалохана).* Не-не, ніч-чога. *(Хаваецца за яліну.)*

**Арол.** Усё, суд скончаны! За свае правіны Верабей тройчы заслугоўвае смяротнага пакарання. Але калі чалавечы суд трымаецца за чалавечнасць, то птушыны павінен трымацца за птушынасць. Таму я выказваю да злачынцы літасць і замест трох смяротных пакаранняў прызначаю адно.

Верабей роспачна спрабуе вызваліцца ад путаў, але Дзяцел і Дрозд трымаюць яго. З-за яліны паказваецца **Заяц** і цягне лапкі да Арла, нібы просіць літасці да асуджанага.

Зноў налятае халодны вецер, у лесе цямнее — набліжаецца ноч.

*(Уздрыгвае.)* Бр-р-р, холадна нешта. *(Апамятаўшыся, бадзёрым голасам.)* Але нічога — перазімуем! Перазімуем на Бацькаўшчыне, га, Дзяцел?

**Дзяцел.** Перазімуем, вашамосць!.. А што рабіць з Вераб'ём? Калі будзе споўнены смяротны прысуд?

Арол задумваецца, пасля падыходзіць да Вераб'я, абмацвае яго, гладзіць сябе па чэраве і прыслухоўваецца, ці не чуваць адтуль якія гукі. Нічога не пачуўшы, Арол ляніва пазяхае і адыходзіць.

**Арол.** Выкананне смяротнага прысуду адкладзем на раніцу. *(Са шкадаваннем.)* Лекары забараняюць рабіць гэта нанач, павячэраўшы.

Д р о з д *(здзіўлена).* Хіба асуджанаму не ўсё роўна калі: нашча ці пад'еўшы?

А р о л *(з цікавасцю паглядае на Дразда).* Асуджанаму, можа, і ўсё роўна, а вось таму, хто выконвае прысуд,— лепей нашча. *(Уладна.)* Кіньце Вераб'я да раніцы ў вязніцу і сцеражыце пільна. Горлам адказваеце за яго! *(Пакідае паляну, бадзёра выкрыкваючы лозунгі.)* Пераз'імуем на Бацькаўшчыне! *(На ўскрайку паляны, ціха.)* Бр-р-р, холад сабачы! *(Знікае.)*

## З'ява чацвёртая

Зусім цямнее. Птушкі збіраюцца вакол В е р а б' я. З а я ц з-за яліны ўважліва сочыць за тым, што адбываецца на паляне.

Д з я ц е л. Кінем яго ў дупло *(паказвае куды)* і паставім вартавога.

Ч а п л я. А каго, каго?

Д з я ц е л. Таго, хто ўначы не спіць.

Д р о з д. А хто ўначы не спіць?

Птушкі азіраюцца адна на адну.

Ч а п л я. Сава, Сава ўначы не спіць!

Д р о з д. І праўда, лепей за Саву нікога не знойдзеш. Уначы не спіць — раз. Ноччу лепей, чым днём, бачыць — два.

Д з я ц е л. Ідзі, Чапля, па Саву. Скажы, так і так, сам Арол загадаў. А мы з Драздом пакуль Вераб'я ў дупло закінем.

Чапля ідзе па Саву. Дзяцел і Дрозд цягнуць у дупло Вераб'я. Верабей супраціўляецца як толькі можа, але як можна супраціўляцца, калі ты звязаны і нават дзюбу не можаш разявіць? Не без цяжкасці, але Дзяцел і Дрозд запіхваюць Вераб'я ў птушыную вязніцу і аддыхваюцца.

З а я ц *(да гледачоў).* А Саву, калі яе Чапля знойдзе, вы проста не пазнаеце, бо яна зусім без пер'я. Голая, як абскубаная курка. Жоўтая. Худая. Выгляд сарамотны і гнюсны. Кепска ёй жыць. Удзень горача, а ўначы халодна. Ды вось і яна, самі зірніце. *(Хаваецца, забраўшы з сабой качалок.)*

На паляне паказваюцца Чапля і Сава — дакладна такога самага выгляду, як казаў Заяц. Відаць, Сава толькі-толькі прачнулася, пакрыўджаная і незадаволеная.

Дзяцел. Прывітанне, кума!

Сава. Не буду я вартаваць! Мала што я ўначы не сплю і добра бачу. А не буду — і ўсё.

Чапля. Вось адмаўляецца і слухаць нічога не хоча.

Дзяцел *(да Савы).* Пачакай, як гэта не будзеш? Сам Арол загадаў!

Сава. Мне асабіста ён нічога не загадваў. Вам загадаў — вы і вартуйце. *(Надзьмулася.)*

Дзяцел. Ну паслужы адзін раз грамадзе!

Сава. Не буду я дбаць пра грамаду. Яна пра мяне не дбае. Вы ўсе, птушкі, у пер'і ды яшчэ ў цёплым гняздзе спаць будзеце. А я, сірата, адна сярод усіх, як палец, ды яшчэ і вартуй. Халодна. Не буду.

Дзяцел. Дык што ж рабіць?

Сава. А вось што. Калі хочаце, каб я ў вартаўніках хадзіла, дык пашыйце мне кажух.

Дрозд *(ашалела).* Які кажух? Што нам, авечак ісці лупіць?

Сава. Навошта авечак? *(Тлумачыць.)* Птушыны кажух. Скіньцеся кожны па колькі пёрак — вунь іх у вас колькі! — і аддайце мне. Такое маё апошняе слова. *(Надзьмутая, адварочваецца ад птушак і чакае іхняй высновы.)*

Птушкі адыходзяцца ўбок і раяцца між сабой.
На небе з'яўляецца месячык.

Чапля *(ные).* Шкада, шкада пёркаў! Яшчэ і зімаваць на Бацькаўшчыне.

Дрозд. Колькі пёркаў — глупства. З такога мізэру не збяднееш і не ўзбагацееш. Затое аддасі — ды йдзі сабе спаць.

Дзяцел. Няма выйсця, давядзецца пашыць гэтай курыцы кажух. Вочы зліпаюцца, крылы апускаюцца, ногі падгінаюцца. А ў цёплым гняздзе пакладзеш зараз галаву пад крыло ды і свішчы сабе ў дзюбу. Э-эх!.. *(Рэзка вырывае пёрка са свайго чырвонага берэта.)*

Птушкі знікаюць за дрэвам. Сава з выклікам чакае. Праз хвіліну птушкі вяртаюцца, крыху абскубаныя і распранутыя. Затое з кажухом. Дзяцел аддае кажушок Саве. Тая ажно вухкае ад радасці.

Дзяцел. Во табе, кума, кажух. Вартуй-пільнуй Вераб'я, а мы паляцелі спаць. На світанку вернемся, зменім цябе.

Сава. Вух-вух-вух!

Птаства разлятаецца спаць. Сава любуецца кажушком. На лясную паляну апускаецца ноч.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява пятая

З-за яліны высоўваецца Заяц. Сава, зразумела, яго не заўважае — не да таго ёй, шчаслівай дурніцы. Яна то апране кажушок на сябе, то здыме і павесіць на галінку дрэва і разглядае яго з усіх бакоў.

Заяц *(паглядвае на Саву).* У кепскую гісторыю ўблытаўся Верабей! Заўтра раніцай чакае яго смяротнае пакаранне. І ўсё праз фанабэрства, праз яго дурны характар. Эх, быў бы я дужы і смелы — выратаваў бы сябра! А то — слабы ды пужлівы, куды мне... *(Прыслухоўваецца да таго, што бубніць Сава.)*

Сава. Вух-вух, добры кажух, ладны кажух. Шматкаляровы, пярэсты: ёсць пёркі рыжыя і шэрыя, белыя і чорныя, а тут — чырвонае. *(Здымае кажух з дрэва і апранае на сябе.)* Вух-вух, а што мяккі, а што цёплы! Цяпер і сапраўды можна ў вырай не ляцець, зімаваць на Бацькаўшчыне. *(Круціць галавой, круціцца сама, спрабуючы зірнуць на сябе ў кажуху збоку, ды не атрымліваецца.)* Вух, шкада толькі: не магу сама сябе пабачыць у кажуху.

Заяц *(нешта прыдумаўшы).* А можа, і не трэба мне сіла, досыць кемлівасці? Няўжо дарма пра мяне Паэт верш напісаў? *(Смела выходзіць з-за дрэва і накіроўваецца да Савы. Паказваючы на Саву лапкай.)* Жар-птушка! Жар-птушка прыляцела ў наш лес!

Сава *(збітая з панталыку).* Ты што шэры, зусім акасеў ад піва? Якая Жар-птушка? Гэта ж — Сава.

Заяц (*праціраючы вочы*). Не можа такога быць! Не пазнаю!

Сава (*зычліва*). Зараз во дзеўбану табе паміж вушэй, адразу пазнаеш.

Заяц (*узрадавана*). Ой, няўжо гэта сапраўды ты, цётачка Сава? (*Па-філасофску.*) Як кажух мяняе птушку?!

Сава (*зразумеўшы*). А-а-а, вось чаму ты мяне не пазнаў. Што, ладны кажушок? (*Круціцца перад Зайцам.*)

Заяц. Ладны? Не тое слова – ладны! Шыкоўны!

Сава. Бачыш, во пёркі белыя, такіх і ў Чаплі няма.

Заяц. Ды адкуль у той балотніцы могуць быць такія пярайкі!

Сава. А во шэрыя, нібы ў Дразда.

Заяц. Скажаш! Дзе яму, свістуну, мець такія?!

Сава. А вось, вось, бачыш, Зайка, – чырвонае!

Заяц. Шык! Чырваней, чым у Дзятла!

Сава. Вух, ды ніякага параўнання! (*Раптам перастае круціцца і ўважліва разглядае Зайца.*)

Занепакоены Заяц разглядае сябе таксама.

(*Набліжаецца да Зайца.*) Слухай, Зайка!

Заяц (*баязліва адсоўваецца*). Ш-што, цётачка Сава?

Сава рашуча скідае з сябе кажух і падае Зайцу.

Сава. Апрані на сябе мой кажух, а я пагляджу, як ён выглядае збоку.

Заяц (*узрадавана*). Ну, гэта не цяжка. (*Бярэ кажух.*) А дзе ж гэта ты разжылася на такі ладны кажух, цётачка Сава?

Сава (*разгубіўшыся*). Ды вось... птушкі... Верабей... у вырай... там... вартаваць... (*Паспешна.*) А гэта мне сяброўка прыслала з-за мяжы. З вух-вух Ван-ку-ве-ра, каб зімой на Бацькаўшчыне цяплей было.

Заяц. Вядома, хіба ў нашым лесе разжывешся на такі кажушок? (*Апрануўшыся.*) Ну як? (*Дэманструе.*) Шкада толькі – на месячык хмара найшла.

Сава. А я ў цемры лепш бачу. (*Абыходзіць вакол Зайца.*) Нешта ён на табе дрэнна сядзіць, даўгавухі.

З а я ц *(згаджаецца).* Натуральна, цётачка Сава. Хіба для мяне такі ўбор? Эх, каб вы на сябе ў гэтым кажуху зірнулі! Зусім іншы, каралеўскі выгляд! *(Здымае кажух і аддае Саве.)*

С а в а. Вух, ды я толькі пра гэта і думаю! Усю ноч мару.

З а я ц. Не бяды! Паляцела б на возера ды зірнула ў адлюстраванне ў вадзе.

С а в а *(узрадавана).* А і праўда! Як гэта я сама не здагадалася? Зараз жа і палячу. *(Апранае кажух, але ўспамінае пра свае абавязкі.)* Вух! *(Ціха.)* А як жа Верабей? Я пра яго і забылася зусім.

З а я ц *(абыякава).* Ну, я пайшоў, цётачка Сава. *(Робіць выгляд, што сапраўды адыходзіць.)*

С а в а. Пачакай, пачакай, Зайка! Куды спяшаешся?

З а я ц. Ды нікуды, проста шпацырую, дыхаю свежым паветрам.

С а в а. Вось пад гэтым дрэвам – найлепшае паветра. *(Падводзіць Зайца да дрэва, у дупле якога сядзіць Верабей.)* Пагуляй тут, павартуй, а я злётаю на возера – і хуценька назад.

З а я ц. Пагуляю, калі ты, цётачка, так просіш. Чаму ж не пагуляць? Толькі навошта вартаваць дрэва?

С а в а. А ты і не вартуй, проста сачы, каб нічога не здарылася.

З а я ц *(наіўна).* А што можа здарыцца?

С а в а *(злосна).* Нічога, калі ты будзеш разумны. А калі дурны – я табе вушы абарву, як вярнуся. Ну, я паляцела. *(Знікае між дрэў.)*

З а я ц *(крычыць услед).* Я буду разумны, цётачка Сава!

### З'ява шостая

З а я ц кідаецца да дупла і вызваляе адтуль В е р а б'я. Развязвае яму крылы.

З а я ц. Уцякай хутчэй, Верабейка, пакуль Сава не вярнулася!

Верабей круціць галавой, паказвае, каб Заяц развязаў яму дзюбу і ножкі.

А дзюбу і ножкі я табе развязваць не буду: раптам зноў пачнеш спяваць і танчыць?

Верабей роспачна круціць галавой, паказвае на ножкі і абыякава махае крылом: маўляў, ногі можаш не развязваць. Пасля паказвае на дзюбу і робіць рухі, падобныя да тых, калі чалавек працуе лыжкай: маўляў, як жа мне з завязанай дзюбай есці — я ж намру з голаду.

*(Зразумеўшы.)* Ах, я дурань, сапраўды, як жа ты з завязанай дзюбай есці будзеш? *(Развязвае Вераб'ю дзюбу.)*

Верабей. Ух, дзякуй табе, Зайка! Выратаваў ты мяне ад лютай смерці.

Заяц *(азіраецца, ці не вяртаецца Сава)*. Няма калі дзякаваць! Уцякай хутчэй з гэтага лесу, пакуль цябе зноў не злавілі.

Верабей *(разгублена)*. Куды ж мне ўцякаць, Зайка?

Заяц. Ляці ў вырай, да свайго знаёмага парыжскага Вераб'я, пад дахі Манмартра.

Верабей *(сумна)*. Няма ў мяне ніякага знаёмага парыжскага Вераб'я. Ды і Парыжа ніякага няма, відаць, на свеце. Падмануў я цябе.

Заяц. Ах ты, хлус, ах ты, фанфарон несусветны! Толькі запомні: Парыж на свеце ёсць, з вераб'ямі ці без вераб'ёў, а ёсць. Ляці!

Верабей *(разгублена)*. Ды я ж дарогі не ведаю! Ды я ж далей суседняй вёскі ніколі не лётаў! І ў цемры нічога не бачу!

Заяц *(паказвае на дупло)*. Ну тады скачы назад у дупло і чакай смерці, баязлівец. *(Паказвае на неба.)* Хутчэй адважвайся: Сава вяртаецца, а яна ноччу ўсё бачыць!

Верабей. Э-э-эх! *(Падскоквае да Зайца, удзячна абдымае яго і кідаецца наўцёкі.)*

Заяц глядзіць услед Вераб'ю і заўважае, што той скача на звязаных нагах.

Заяц *(наўздагон)*. А ногі, ногі развязаць забыліся!.. А!..

Верабей знікае між цёмных дрэў.
Заяц зграбае ахапак лісцяў і разам з вяроўкамі запіхвае ў дупло. Пасля вымае з кішэні камізэлькі хустку, акуратна выцірае лапкі і шпацыруе вакол дрэва, насвістваючы песеньку.

З а я ц *(глядзіць на неба).* Хутка раніца. А яшчэ, калі я не памыляюся, вось-вось пойдзе снег. Першы снег.

Здалёк чуецца вухканне С а в ы, неўзабаве з'яўляецца і яна сама, занепакоеная, але задаволеная.

С а в а. Вух-вух! Ну як, бачыў што падазронае?

З а я ц. А што падазронае я мусіў бачыць?

С а в а. Калі нічога не бачыў, значыць, усё добра.

З а я ц. Як кажух, цётачка Сава?

С а в а. Не магла на сябе нагледзецца! *(Падыходзіць да дрэва і зазірае ў дупло.)* Здаецца, усё ў парадку. Але нешта я зусім дрэнна бачу — няўжо світае?

З а я ц *(пазяхае).* Так, ужо раніца. Шчасліва заставацца, я пайшоў спаць.

С а в а. Бывай, даўгавухі. Вух! *(Круціць галавой.)* Мне на дзюбу ўпала нешта белае, халоднае!

З а я ц. Гэта першая сняжынка. *(Смяецца.)* Набліжаецца зіма! *(Знікае між дрэў.)*

С а в а *(задумліва).* Сняжынка... Зіма... *(Прыхінаецца да дрэва.)* Ужо зусім светла. А ніхто мяне не змяняе на варце... Вух-вух. Птушкі спяць сабе ў цёплых гнёздах... А я тут сцерагу... сняжынку на кончыку ўласнай дзюбы... *(Засынае.)*

Зусім світае. З неба падаюць рэдкія, адзінокія сняжынкі. На паляне з'яўляецца А р о л, апрануты па-дарожнаму, з валізкай.

А р о л *(размаўляе сам з сабой).* Хто ж гэта ведаў, што пойдзе снег? *(Да гледачоў.)* Вы ведалі?.. Я ж забараніў снег. Забараніў маразы. *(Здагадаўшыся.)* Значыць, будуць і маразы? Бр-р-р, як халодна. Не, паснедаць — і ў дарогу. *(Стаўляе валізку на зямлю і зазірае ў дупло. Знаходзіць там толькі вяроўкі і ахапак лісця.)* Та-ак, сняданак знік. *(Разглядаецца, заўважае нарэшце Саву, якая соладка спіць пад дрэвам.)* Яно і не дзіўна з такім вартаўніком. А можа, вартаўнік і з'еў мой сняданак? *(Падыходзіць да Савы і ўздымае нагу, каб даць ёй кухталя, але перадумвае.)* А-а, што ўжо зараз... толькі шум... *(Бярэ валізку і брыдзе прэч. Даходзіць да яліны, пад якой Заяц «варыў» піва.)* І Заяц недзе спіць. Зараз і ад ягонай маркоўнай гарбаты не адмовіўся б. Але давядзецца,

як той Дрозд казаў, нашча... Адным словам — «пець дразда». *(Знікае між дрэў, чуваць толькі ягоны голас.)* Хто ж гэта ведаў, што пойдзе снег... Я ж забараніў снег...

### З'ява сёмая

У лесе раніца. Чуваць птушыная гамана, і неўзабаве на паляне з'яўляюцца Дзяцел, Чапля і Дрозд. Птушкі нявыспаныя, дрыжаць ад холаду. Заўважаюць Саву, якая соладка спіць, угрэўшыся ў цёплым кажушку.

Чапля *(абурана).* Ды яна спіць, пудзіла пярэстае!

Ад крыку Чаплі Сава прачынаецца і лыпае вачыма на птушак і свят-ло. Дрозд і Дзяцел зазіраюць у дупло, знаходзяць толькі вяроўкі ды ахапак лісця.

Дрозд. Гвалт! Верабей уцёк!

Дзяцел. Які канфуз!

Чапля *(набліжаецца да Савы).* Не ўпільнавала! Праспала!

Дзяцел. Самі вінаватыя! Знайшлі каму адказную справу даверыць.

Дрозд. Што з намі зробіць Арол! Хоць ты на вочы яму не паказвайся!

Дзяцел. Развалілі дзяржаву, адным словам!

Чапля. Ціха! Што гэта?.. Чуеце?

Аднекуль зблізку даносіцца песенька Вераб'я:

Цір-ла-ла,
Цір-ла-ла,
Не баюся я
Арла!

Дзяцел. Нехта спявае.

Дрозд. Ды гэта ж Верабей!

І сапраўды, на паляне з'яўляецца Верабей. Ён не толькі спявае, але і танчыць сваю «польку» і яшчэ махае нейкімі плакатамі.

Верабей (*спявае*)

Я – вясёлы верабей.
Я – арол-верабей,
Вельмі смелы верабей.
Верабей,
Верабей,
Вера –
Вера –
бей!

Чапля. Ах, трымайце мяне, ён яшчэ і танчыць! (*Страчвае прытомнасць.*)

Дрозд падхоплівае яе, каб не ўпала.

Дзяцел (*пагрозліва*). Ты зноў парушаеш загады Арла, нягоднік?!

Верабей. Пляваў я на вашага Арла!

Дрозд. Ніч-чога не разумею.

Верабей. А Арол пляваў на вас усіх.

Заяц (*высоўваецца з-за яліны*). Верабей? Ты не паляцеў у вырай? А як жа Парыж?

Верабей. У вырай паляцеў Арол. Відаць, якраз у Парыж. А я, калі даведаўся пра гэта, надумаў застацца. (*Кідае пад ногі птушкам плакаты.*) Вось апошнія загады вашага дзяржаўцы. Выконвайце.

Чапля, якая толькі-толькі прыйшла ў прытомнасць, зноў страчвае яе. На гэты раз Чаплю падхоплівае Дзяцел.

Чапля. А-а-ах, трымайце мяне!..

Дрозд (*плюе на загады Арла*). Махляр! «Птушыны суд павінен трымацца за птушынасць!»

Дзяцел (*топча плакаты*). Ашуканец! «Будзем зімаваць на Бацькаўшчыне!»

Чапля (*млосна*). Хачу ў вырай...

Дзяцел, Дрозд (*разам*). У вырай! У вырай! Ляцім у вырай.

Ад гоману прачынаецца Сава, пра якую ўсе забыліся.

С а в а. І я, і я з вамі!

Ч а п л я. Куды? Аддавай маё пер-р-р'е, нягодніца!

Д р о з д. І маё, маё аддавай!

Д з я ц е л. Вярні кажух, аферыстка!

С а в а *(уцякае)*. Ратуйце, апошнюю скуру здзіраюць!

Птушкі кідаюцца за С а в о й, тая ўцякае. Заяц і Верабей застаюцца на паляне адны.

В е р а б е й. А куды падзецца мне? У вырай ляцець — боязна, заставацца ў лесе — халодна ды галодна.

З а я ц. Перабірайся, Верабейка, у вёску — да людзей. Там неяк і перазімуеш: знойдзеш крошку-другую хлеба, адагрэешся ля цёплага коміна.

В е р а б е й. Ц-ц-цудоўна! Лячу ў вёску! *(Ляціць у вёску.)*

З а я ц. А я пайду пагляджу, што гэта птушкі так разгаманіліся. Каб хоць не злавілі Саву... *(Здымае з яліны афішу спектакля, кладзе яе ў агульны стос і пакідае паляну.)*

З-за дрэў чуваць крыкі: «Аддай маё пер'е! Аддай маё пер-р-р-р'е! Вярні кажух!»

*З а с л о н а*